# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 14 (1664) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 3 КРАСАВІКА 1988 г. ЦАНА 20 зл.





„Беларуская песня '88". На першым плане — вядомы беларускі кампазітар з Гродна Аляксандр Шыдлоўскі.

## Беласток расспяваны

На працягу двух сакавіцкіх дзён над Беластокам панавала песня, беларуская песня. Гэта ў зале Беластоцкай філармоніі 12 сакавіка 1988 года праходзіў фінальны агляд конкурсу „Беларуская песня '88", а ў нядзелю, 13 сакавіка, адбываліся два канцэрты лаўрэатаў.

**Першае, што ўражвае ва ўсім гэтым.** Ужо на добрых пару тыдняў да агляду нельга было нават марыць аб тым, каб дастаць білет на які-небудзь канцэрт. Нават не верылася, што людзі, нягледзячы на даволі-такі немалыя кошты, так хутка раскупілі білеты на ўсе тры канцэрты.

**Другое.** Вялікай атракцыяй і радасцю для ўсіх арганізатараў цэнтральнага агляду і ўсіх прыбыўшых слухачоў быў прыезд знатнага госця — вядомага беларускага кампазітара з Гродна Аляксандра Шыдлоўскага, нямала песень якога выконвалася ў гэтыя два дні. Аляксандр Шыдлоўскі быў ганаровым старшынёю журы конкурсу. Журы наогул было рэпрэзентацыйнае: дастаткова было б сказаць, што ў ім быў таксама вядомы збіральнік музычнага фальклору, журналіст Польскага Радыё ў Варшаве Марыян Даманскі, а кіраваў працай журы стары сябра беларускай песні, выкладчык Беластоцкай музычнай школы Ежы Сьрудкоўскі.

**Трэцяе, што кідалася ў вочы.** Несамавіты размах. На працягу 7 гадзін у першы дзень агляду выступіла: 22 калектывы, 7 дуэтаў і трыо, 11 салістаў. Сабраліся калектывы з усёй Беласточчыны, прыехалі самадзейнікі аж з Гданьска. У якасці гасцей выступіў таксама беларускі самадзейны калектыў „Лявоны" з Воранава, што ў Гродзенскай вобласці БССР.

**Чацвертае.** Пакідалі жадаць многага правілы конкурсу. Журы мела немалыя клопаты з выбарам найлепшых. Стваралася ўражанне, што правілы конкурсу былі як бы недапрацаваны. Усіх удзельнікаў трэба было падзяліць на чатыры катэгорыі: фальклорная песня без акампанементу, фальклорная песня з акампанементам, сучасная песня без акампанементу і сучасная песня з акампанементам. Ну, а хто ж сёння будзе спяваць сучасную, апрацаваную беларускую песню без акампанементу?! Такіх і на конкурсе не было. Тады журы падзяліла ўсіх выканаўцаў на тры катэгорыі і ў кожнай катэгорыі падзяліла ўсіх на тры групы, ці месцы, калі іх так можна было б назваць, на якія, быццам у бочку з селядцамі, давялося кінуць салістаў, дуэты, трыо, ды, галоўнае, калектывы. І тады высветлілася, што на першым месцы, ці ў першай групе, ёсць аж 13 пазіцый! Таму лічу, што на будучы год салідныя правілы конкурсу павінны стаць першым, неабходным этапам фінальнага агляду штораз больш значнага ў нашым рэгіёне конкурсу (а мо неўзабаве фестывалю).

Сярод фальклорных аўтэнтычных калектываў, якія спяваюць а капэла, найлепшымі аказаліся калектывы з Дабрывады і Меляшкоў, а таксама дуэт з Чыжоў. У катэгорыі фальклорнай песні з акампанементам: вакальны калектыў з Гарадка,

(Працяг на стар. 7)



Найлепшыя Святочныя пажаданні „Ніва"



БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 346

# БЕЛАРУСЫ І „ПОЖНЯ"

„Пожня" Васіля Петручука трапіла да нас, у Гданьск, неяк у пачатку года. Петручука ведаю я па „Ніве". Чытаў яго кароткія ўспаміны, у якіх пісаў ён пра сваё былое жыццё. Пра Грабавец. Цяпер мне цяжка ўспомніць, што адштурхоўвала мяне ад яговых тэкстаў: самі ўспаміны, ці іхняя форма? Відома, што да вайны жылося надта цяжка, галотна. І тое, што гараваў і Васіль, нічога асаблівага і дзіўнага. Пад літаратуру мне гэта не падыходзіла.

Некалі чытаў я „Сто гадоў адзіноты" Гарсіі Маркеса.

У Маркеса і ў Петручука тая ж аддаленасць да падзей, якія здарыліся як быццам не ў нашым свеце, а ў нерэальнай краіне. Цяжкі лёс Васіля не кранае маіх струнаў спачування. Затое у гэтай кніжцы аптымізму. Усё ж такі Васіль стаў афіцэрам, а потым нават і пісьменнікам з уражлівым сэрцам, і хадзіў у дзяцінстве за каровамі.

У дзяцей на вёсцы наогул нялёгкае жыццё. Яны нават слабейшыя здароўем і ніжэйшыя ростам за гарадскіх. Акружаючы вялікі свет і цывілізацыя, гістарычная свядомасць — былі недаступныя грабаўлянам. Думаю, што вобраз вёскі ў „Пожні" не змяняўся стагоддзямі. Змяняліся толькі поры года: пасля зімы прыходзіла вясна, а пасля вясны — лета і г.д. Калі параўнаць жыццё на старажытнагрэцкім востраве Крыт некалькі тысяч гадоў назад з жыццём беларусаў пасярэдзіне дванццатага стагоддзя, у дзве тысячы гадоў пасля Хрыста, дык можна крыху зразумець, чаму беларусы, седзячы амаль у цэнтры Еўропы, так трагічна жылі. Іх скублі і скубуць з усіх бакоў, а не так даўно яшчэ і правоў чалавекам звацца адмаўлялі ім, быццам неграм на плантацыях Афрыкі даўняе.

**М. Махнацкі**

# ПЕРШЫ ЎРОК

*Сынаві Марцінаві*

Гэта парог,
А за парогам —
Вецер
У лістоўі казкі бае.
Памалу!
Сходы!
Ручку дай...
Бяжы
Па панадворку!
Бяжы,
Пакуль у жыцці май,
Дарога
Без узгоркаў.
Паглянь!
Вунь:
Яблыня уся у белі.
Як маладая
Падчас шлюбу,
За пуняй
Луг разлёгся люба
У вясёлка-сонечнай пасцелі.
Ластаўкі
Песні на дратах пішуць,
Зязюля
Уголас гады лічыць.
Небам
Навальніца прайшла...
Гэта, сынок,
Прыйшла вясна.
А заўтра
Косы сваё права
Накінуць падаспеўшым травам,
У сумным
Крузе развітальным
Буслы
На крыллі ўзнімуць неба,
Запахне колас
Свежым хлебам,
Злёгшы цяжка
У пракосы,
Уздыхне валошка
Над сваім лёсам,
Курапатка
Згукне дзетак...
І гэта, сынку,
Канец лета.
А потым:
Неба блакіт страціць,
Зацягне жораў
Песню жабрачу,
Верасень
Сыпне бабскім летам,
Сумам
Вырай загалосіць...
І гэта,
Мой ты мілы,
Восень.
А калі рэкі
Стануць лёдам
І заяц
Прыдзе ў ласку саду,
Неба ўздыхне
Халодным шадам,
Застынуць дрэвы
У маркотным трансе
Забыцця,
Войкне пад ботамі
Зямля...
Гэта ўжо, сынок,
Зіма.

А там далей,
Там ціш бязмежна
Вее
Бяздоннем небыцця,
Мара
Мяшаецца з успамінам,
Звоняць
Хвіліна аб хвіліну,
Скавытанне,
Дзікі рогат...
Там, сынок,
Канец дарогі.

**Міхась Шаховіч**

# УЦЕКАЧЫ

Сумнае дзеецца з вёскамі,
Быццам няма вінаватых.
Вокны забітыя дошкамі,
Страшаць пустэчаю хаты.

Мы назаўжды развіталіся
З роднай бацькоўскай зямлёю,
Вёсцы чужымі ўжо сталіся,
Наша жыццё гарадское.

Мы, як сяляне ўжо былыя,
Рэдка бываем тут госцем,
Нашы бацькі, век аджыўшыя,
Спяць вечным сном на пагосце.

Мы, гарадскія асаднікі,
Што разбрыліся па свеце,
Хоць і зямліцы мы здраднікі,
З ёй нам зрадніца прыдзецца.

**Віктар Швед**

**Іштван Дабі**

## СЦВЯРДЖЭННІ І ПЫТАННІ

я быў там
даўно
я — тут
зараз
буду дзесь
калісь
ці сапраўды?
але дзе?
і калі?

* * *

ці зімой
людзі таксама становяцца
халоднымі
адзін да другога
пад уплывам халоднага паветра
і снегу
які іх прыкрывае
а ў хуткім часе здаецца будуць
пад тоўстым слоем ільду
не прапускаючага
цёплы дотык прыязных пальцаў

* * *

глянь на неба
дзе з-за воблакаў
сонца глядзіць сумна
на зямлю адзетую ў бель
і не разумее
ці гэта колер
жалобы ці радасці

* * *

дрэвы
што саромяцца сваёй галізны
як галовы
звешваюць галіны
к зямлі
і моляцца каб неба
саслала снег
прыкрыць іх голыя целы

## ЖЫЦЦЁ АДЗІНОКАЙ ЖАНЧЫНЫ

устала памылася адзелася
пайшла на працу
вярнулася дадому
зварыла вячэру з'ела
раздзелася памылася
ды лягла спаць
каб заўтра паслязаўтра
і пазней кожны дзень
рабіць без стомы адно і тое ж
век.

# ТАК БЫВАЕ...

## ВАЎКІ

Трагедыя, пра якую я паведаю, здарылася наяву.

Быў месяц люты з марозамі з мяцеліцамі. Недзе ў лесе блукалі і вылі ваўкі. Было маркотна.

Па лясной дарозе ішоў рэйсавы аўтобус. Адзін з пасажыраў, у кажусе, папрасіў шафёра затрымаць машыну і па сваіх патрэбах пайшоў у лес. Раптам бачыць: пад елкай, на шаліку вісіць маленькая дзяўчынка гадоў чатырох-пяці. Пасажыр зняў яе. Яна была яшчэ жывая, але страціла прытомнасць. Ахутаўшы дзяўчынку кажухом, пасажыр прынёс яе ў аўтобус. У цяпле дзяўчынка ажыла. Людзі акружылі яе: хто даў цукерку, хто — абаранак. Аўтобус пайшоў далей.

Мінут праз дзесяць аўтобус запынілі двое: мужчына і жанчына. Яны папрасілі падвезці. Калі незнаёмцы ўвайшлі ў аўтобус, дзяўчынка пазнала сваю маці.

— Мамачка! — закрычала яна. — Ты казала, не балюча будзе... А мне так балела...

Наступіла мёртвая цішыня. Усе глядзелі на мужчыну і жанчыну — што яны будуць рабіць? Усе перажывалі, усе хваляваліся, бо перад імі былі вінаўнікі гэтай трагедыі.

— Ваўкі! — крыкнуў пасажыр у кажусе.

— Ваўкі! — паўтарыла пасажырка ў шаліноўцы і дадала: — Толькі з чалавечым абліччам. Як вам не сорамна перад белым светам!

Незнаёмка збялела, як белы снег. Яна з плачам кінулася да дзяўчынкі. Пачала цалаваць яе і прасіць прабачэння. Незнаёмец сцяміў, што тут яму палічаць рэбры. Стаў ламаць аўтобусныя дзверы. Пасажыр у кажусе не вытрымаў гэтага. Ён з кулакамі накінуўся на яго, каб затрымаць. Але незнаёмец не здаваўся — быў дужы.

— Не бі майго дзядзечку! — закрычала дзяўчынка. — Ён абяцаў мне купіць ляльку.

Якое шчырае сэрца было ў гэтай дзяўчынкі! Яна не ведала, што гэты дзядзечка — яе вешальнік. Гэта ён угаварыў яе маці на такое.

На дапамогу пасажыру ў кажусе падаспела некалькі чалавек. Шафёр аўтобуса ўбачыў, што разгневаны люд разарве гэтага дзядзечку на кускі. Спыніўшы машыну, ён перадаў па дынаміку:

— Грамадзяне пасажыры! Прашу не чыніць самасуд. Зараз адвязём іх у міліцыю. Там разбяруцца.

І калі ў аддзяленне міліцыі першым выводзілі незнаёмца, дзяўчынка крыкнула яму ўслед:

— Дзядзечка! Не забудзь купіць мне ляльку.

Праз некалькі хвілін туды прывялі і дзяўчынку з маці.

Быў месяц люты з марозамі, з мяцеліцамі. Недзе ў лесе блукалі і вылі ваўкі. Было маркотна.

**Янка Насута,**
**Гродна**

## НАША ПОШТА

**Тамаш Кірылаў, Легніца.** Адказваем вам па чарзе, справа па справе. Кніжку Васіля Петручука „Пожня" вы можаце заказаць у ГП БГКТ (адрас: Беласток, вул. Варшаўская 11). Гэтак жа і „Беларускі каляндар на 1988 год". Калі гаварыць пра работу нашых кнігарняў, дык трэба адразу адзначыць, што рэдка бываюць у іх кваліфікаваныя прадаўшчыкі. У прыклад кажучы, і кніжку Петручука „Пожня" на польскай мове, і Яновічаву „Беларусь, Беларусь" можна яшчэ заказаць, але ім проста не хочацца. Таксама, як не хочацца вашай пошце акуратна дастаўляць вам „Ніву", бо ў вашым гэтым заходнім горадзе вы, пэўна, адзіны яе падпісчык. Падобныя турбацыі маюць нашы падпісчыкі і ў іншых гарадах, у якіх „Ніва" — гэта экзатычны часопіс.

Дзякуем вам за пажаданні работнікам „Нівы".

Пішаце: „Мне вельмі падабаюцца выказванні Сакрата Яновіча, перадрукаваныя ў першай лютаўскай „Ніве" з месячніка „Паэзія". У нас сапраўды распаўсюджаны культ подласці ды ашуканства. Чым больш хто подлы, тым мацней разумнейшым лічыцца ён. Хваляць такога: вось гэты ўмее жыць! Хто сумленны, той дурань. Куды мы дакоцімся з такой філасофіяй?!" — рытарычна пытаеце. І мы, разам з вамі, ставім такое ж пытанне.

**Андрэй Гаўрылюк, Відава.** Нашто нам такая карэспандэнцыя, у якой апісваеш, як нейкаму неўдалоту захацелася чорнае кавы і яго абдурыў камбінатар, узяўшы пятнаццаць тысяч за кілаграм тае кавы, якой даверлівец ніколі так і не пабачыў, толькі рукамі пляснуўшы па сваім лбе... Нам трэба матэрыялаў сапраўды важных пра чалавечае жыццё, а не пра перыпетыі з каваю, без якой можна жыць і не галадаць.

**Грыша Мароз, Стараберазова.** Цярплівасці, дарагі, усё ў свой час: твае карэспандэнцыі апрацаваны і чакаюць чаргі ў друк.

**Іван Прахарук, Храбалы.** Мы здзіўлены вашай рэакцыяй на дзейнасць Кастуся Каліноўскага ў Студзеньскім паўстанні. Вы, звычайна, паўтараеце аргументы царскай прапаганды, а яшчэ хапае вам сумлення ўсхваляць самога цара!

**Яўген Талочка, М. Антанюк, А. Калішэвіч — Бельск.** Паўтарыўшы тое, што напісаў быў Іван Прахарук, дадаткова абвінавачваеце Сакрата Яновіча (С.Я.) у антыбеларускасці, самі пішучы ў „Ніву", як і Прахарук, на польскай мове. Такога мы не чулі: каб беларускі пісьменнік быў ворагам беларусаў і беларусчыны. Апамятайцеся, людзі добрыя! Перастаньце малоць глупствы.

А калі ўжо хочаце выступаць у ролі вялікіх беларускіх патрыётаў, дык спрабуйце хоць трохі падвучыцца пісаць па-беларуску, што не павінна быць вельмі цяжка, столькі год чытаючы „Ніву". (ся)

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ




*Старая хата ў Наройках Драгічынскай гміны. Малюнак Ул. Петрука.*

### „ПАПУЛЯРНЫ" — НЕ АБЫ-ЯКІ

Шостага сакавіка 1983 года я пісаў у „Ніве" пра бар „Ратушовы" ў Бельску. Цяпер хачу напісаць пра бар „Папулярны", што каля вуліцы Міцкевіча, блізка аптэкі. Некалі знаходзілася тут кавярня „Эва", маладыя гэтага не памятаюць. Пабудавалі будынкі каля вуліцы Навоткі і перавялі туды кавярню, перахрысціўшы яе на: „Гайдучок".

„Папулярным" кіруе Рэгіна Маршал, працуе ў ім дзесяць чалавек. Ужо год будзе, як я маю тут свой стол і не наракаю. Мы даволі прызвычаіліся да мужыцкіх сварак у падобных барах, але ў „Папулярным" няма іх, тут робяць паважныя людзі, ніякая навалач. У бары асаблівы рух у тарговыя дні, хоць і без іх дзверы не зачыняюцца: шматлікія бельскія фірмы выкупілі абанементы і возяць сваім рабочым ежу ў тэрмасах. Месца бару мала, але нічога не зробіш — большае памяшканне ніхто не дасць, трэба ладзіць у тым, якое ёсць.

Кіраўнічка ўдалася спраўная, не азіраецца толькі на надзелы, на тую ласку зверху; выкарыстоўвае свае правы на куплю прадуктаў дадаткова. Таму ў „Папулярным" заўсёды можна смачна паесці, і да кліента не адносяцца тут, як да кагосьці, хто прыходзіць перашкаджаць спакойна пажыць... „Папулярны" — гэта не значыць: абы-які.

**А. Гаўрылюк**

### ПАСЛУГІ ДЛЯ СЯЛЯН

Зараз у **Кляшчэлеўскай** гміне існуе 19 прыватных паслуговых пунктаў, найбольш будаўнічых. Напрыклад, вакно або дзверы можна заказаць у сталяроў у Кляшчэлях, а таксама ў Палічнай і Сухавольцах. Няма, аднак, між іншым, краўца ды механіка, які адрамантаваў бы аўтамашыну. Жанчыны, калі захочуць, шыюць сабе нешта самі, але ж, вядома, не кожная патрапіць. А модна ж апранацца любіць кожная.

16 паслуговых пунктаў дзейнічае ў **Чыжоўскай** гміне. Сяляне маюць каля 700 уласных трактароў, але і 460 коней. Узімку каня падкаваць трэба. Каваль прыдаўся б...

Варта дадаць, што дзесяць гадоў назад у гміне было каля тысячы гнядых ды буланых. Лік коней зменшыўся. Мо таму і не стала кавалёў?

Пацяшае факт, што ў Чыжоўскай акрузе ў некалькіх вёсках пражываюць так званыя майстры на ўсе рукі. Іх можна сустрэць у Койлах, Клейніках і Моры. **(яц)**

### ЧЫРВОНЫ ПЕВЕНЬ

Колькі разоў чуваць страшны крык: „Пажа-ар!" Пытаю я пра гэта ў начальніка бельскіх пажарнікаў, падпалкоўніка В. Сіманенка. Ён і кажа, што за мінулы год было пяцьдзесят дзевяць пажараў. Страты ад іх вялікія, дваццаць пяць мільёнаў. Аднак трэба заўважыць, што пажараў пачынае быць менш. Два гады назад было іх аж восемдзесят чатыры. Вядома, найчасцей гарыць у самім Бельску: за мінулы год васемнаццаць пажараў. Самы вялікі меў месца каля вуліцы Пецала, дзе гарэлі будынкі гаспадароў. Згарэла ўсё, датла. На амаль пяць мільёнаў злотых. Найменш было пажараў у Арлянскай гміне, толькі тры.

Ужо ў гэты год было ў Бельску пяць пажараў і тры пажары на тэрыторыі гміны.

Пажарнікі кантралююць нямала, асабліва прыглядаючыся да комінаў і электрычных інсталяцый. Пяць чалавек аштрафавалі, даволі, бо на суму 57 тыс. зл.

Пажар — гэта не толькі бяда гаспадару і яго сям'і. Гэта дадатковая нагрузка і на мясцовую эканоміку, бо ж трэба даць матэрыял для адбудовы, даць надзелы цэменту, цэглы, вапны, бляхі, усяго таго, чаго і так няма ў свабодным продажы. Значыць, хтосьці іншы не дастане гэтага ўсяго, бо трэба даць пагарэльцам. Так што пажары — гэта ўсім нам бяда.

**А. Гаўрылюк**

## СЯБРЫНА

# Адкрытыя твары

### РАЗМОВА З ВАЛЯНЦІНАЙ ТРУХАНОВІЧ

**Міра:** Нарэшце, у цябе знайшлося паўгадзінкі на гэтую размову. Даходзіць амаль поўнач, дзеці ўжо спяць. На дзвюх машынках ляжаць матэрыялы — нядаўна ты кончыла пісаць артыкулы. У цябе столькі зацікаўленняў...

**Валя:** Мае навуковыя зацікаўленні не ідуць у адным напрамку. Адзін — гэта методыка навучання замежных моў, другі — чыста тэарэтычны, які датычыць літаратуры, а менавіта літаратуры польска-рускіх і руска-польскіх кантактаў перыяду крытычнага рэалізму. З польскага боку зроблена ў гэтай тэме вельмі мала, гэта амаль белая пляма. Для сярэдняга паляка было б страшэнна дзіўным і непрыемным, калі б яму сказаць, што такі вялікі пісьменнік, як Баляслаў Прус, мог карыстацца вобразамі, узятымі ад Льва Талстога, якія паўсталі раней. Некаторыя вобразы лінейка ў лінейку сустракаем у вобразах, напрыклад, смерці, тут прыводжу прыклад „Эманцыпантак", „Анны Карэнінай" ці „Вайны і міра".

**М.:** Не толькі польска-рускія літаратурныя сувязі цябе цікавяць...

**В.:** Хачу пахваліцца ўдзелам у семінары „Мост праз стагоддзі". Свайго часу вельмі цікавіў мяне Танк, намервалася я нават пісаць доктарскую працу на гэтую тэму, але была прымушана адмовіцца ад намеру (не буду тут гаварыць аб прычынах). А з зацікаўленняў ненавуковых у мяне перш за ўсё падарожжы, падарожжы і кантакты з людзьмі. Іншыя культуры, народы, краіны. Дзе я была? Найдалей на поўдзень у Грэцыі, гэта не так ужо і далёка. Я падлічыла, што, напрыклад, у Балгарыі была больш года. Сябры ў мяне ёсць і ў Японіі, і на Кубе, і ў ЗША, і ў Аўстраліі, не лічачы гэтых, што жывуць блізенька. Рассеяны па цэлым свеце. Вельмі цаню добрых сяброў. Каштоўныя для мяне таксама добрыя кантакты з маімі падапечнымі, студэнтамі, а не кожнаму настаўніку гэта ўдаецца. Хаця стараюся многаму навучыць і востра патрабаваць, а студэнтам часам гэта не ў смак, цешуся, што, хаця б час ад часу, бачу адкрытыя твары — скажуць мне такое, з чым не адкрыюцца перад іншымі. Факт, часам могуць выйсці і іншыя рысы характару.

**М.:** А твае рысы характару?

**В.:** Залежыць якія: станоўчыя ці адмоўныя. Пачнем ад тых, якія могуць быць і станоўчымі і адмоўнымі, у залежнасці ад сітуацыі. Гэта, напрыклад, гаварэнне проста ў вочы таго, што думаю. Так, ці не? Гэта можна разглядаць у залежнасці ад выніку, да якога прыводзіць такая пастава. Ну, можа яшчэ занадта эмацыянальна і імпульсіўна перажываю ўсялякія справы, але бываю таксама разважлівая і ветлівая. А што найбольш цаню ў іншых, чаго шукаю? У маіх студэнтаў найбольш для мяне каштоўнае — адкрытасць. Добра, калі можам адзін другога зразумець. Студэнт можа апраўдвацца тым, што быў напіўся і не мог падрыхтавацца да заняткаў, але калі „сцягне" і будзе пераконваць мяне, што гэ-




### ІЗНОЎ „ПАН ТАДЭВУШ“

Я поўнасцю згодна з Р. Бутайлам, што „Пана Тадэвуша“ ў перакладзе Б. Тарашкевіча трэба абавязкова выкупіць. Гэта наш абавязак і не толькі таму, што выданне гэтай кніжкі каштавала шмат сіл і нерваў усім.

Здаецца, яшчэ занадта рана апісваць усе пакуты гэтага тэксту. Гэта ж быў першы поўны пераклад „Пана Тадэвуша“. І гэта таксама абавязвала, здавалася б, але выйшла інакш. І таму я вельмі ўдзячна аўтару, што хаця б адзін сказ прысвяціў таму, што пераклад павінен быў быць выдадзены ў 1957 годзе, гэта значыць тады, калі гаспадыня тэксту, жонка Тарашкевіча, выцягнула яго з тайніка, дзе быў схаваны ад паловы 30-ых гадоў. Ёсць аб чым падумаць.

Чытаючы апошнія сказы аўтара, я стала раздумваць: ці мае ён рацыю, што на сённяшні дзень кніга быццам бы не для чытання? Пачала капацца ў сваёй шуфлядзе і ў папцы з надпісам „Пан Тадэвуш“ знайшла шмат цікавых рэцэнзій. Ёсць жа розныя чытачы. Думаю, што ў кнізе нямала цікавага і чытаць яе варта не толькі як гістарычны дакумент. Я на днях падаравала экземпляр маладому беларусу, і яго падарунак абрадаваў. Добры падарунак! Ён, відаць, „Пана Тадэвуша“ ведае і перш за ўсё стаў разбірацца ва ўводным артыкуле праф. Яблонскай, заглянуў у артыкул праф. Турскай, глянуў таксама ў пераклад. І відаць было, што ўсё яго зацікавіла.

Калі я пісала аб перакладзе „Пана Тадэвуша“ Б. Тарашкевічам, абмежавалася толькі ўмовамі, у якіх гэта адбывалася, і цяпер не скажу больш. Але аб перакладчыку — скажу. Нярaз сустракалася я з наступнымі словамі: „Дык хто ж ён, урэшце, гэты Браніслаў Тарашкевіч — палітык ці паэт?“ А пасля таго, як у 1922 годзе ў беларускай газеце ў Вільні апублікаваў перакладзеныя ім першыя песні „Іліяды“ Гамера (у двух нумарах газеты „Беларускі звон“), яго ў „Беларускім календары на 1923 год“ назвалі **паэтам.** Цяпер ужо вядома, што **ў 1928 годзе** ім была перакладзена **ўся** „Іліяда“, поўнасцю. Будучы ў Маскве, у 1935 годзе, ён аддаў яе („Іліяду“) у Белгосіздат для друку. Адначасова 22 песні (апошняй часткі „Іліяды“) апублікавала „Полымя Рэвалюцыі“.

А. Ліс у сваёй кнізе „Браніслаў Тарашкевіч“ пераклад хваліць і некалькі песень там поўнасцю змясціў. Ад таго часу мінула амаль 20 год!! „Іліяда“ не толькі не выдадзена — яе **ніхто** не шукае. Бадай, не прыйшоў яшчэ час на „Іліяду“. Мы яшчэ **многіх твораў Браніслава Тарашкевіча не ведаем.** І таму варта было б яшчэ ўстрымацца ад катэгарычнага сцвярджэння, што „быў толькі філолагам, паэтам не быў“.

**А. Бергман**

*Ад рэдакцыі. У Беластоку, у міжнароднай кнігарні на вул. Кілінскага 10 можна якраз набыць „Пана Тадэвуша“ ў перакладзе Б. Тарашкевіча.*



# БЕЛАРУСЫ Ў ПАДПОЛЛІ АБО ЯК РАЗБАГАЦЕЦЬ

На аўтобусным прыпынку чую, як гавораць між сабою бабы.

— Цяпер ніхто нікому задарма нічога не прывязе і не падвязе нават, такімі карыслівымі людкове парабіліся...

— А саколенька мая, калі і за грошы не вельмі хочуць. У нас, калі яшчэ Ваня малако тое вазіў, то браў пяцьдзесят злоты за конаўку ў месяц, а восыпку, дык і задарма прывозіў быў. Потым ён паддаў большую цану, то людзі перасталі даваць яму грошы. І што ты думаеш: Ваня ўзяў ды звольніўся з работы і падаўся ў заробкі ў лесе. Цераз яго гаспадары цэлы месяц малака таго ў малачарню не дастаўлялі...

— А каб не, памятаю я тое. Яго жонка тады і казала: а добра ім так! А няхай цяпер паскачуць без яго! Але ўзяўся вазіць малако наш Міша, і добра маецца. За месяц — шэсцьдзесят чатыры тысячы збіраецца яму! А яшчэ дастае грошы і за тое, што конаўкі носіць ад гаспадароў, і за той „правіт“ жывіне, што прывозіць, таксама дастае ён сваю долю, значыць, усяго разам выходзіць яму другія шэсцьдзесят, во.

— А я бачу, чаму гэта ён так добра на нагах стаіць, што кінуў рабіць на станцыі. А жонка Мішы, то перад Вялікаднем маляроў з Беластока наняла, каб хату памалявалі, як цацку якую! Ваня, нябось, шкадуе...

— Глядзіце, як бывае: пакуль Ваня вазіў, то жонка Мішы сварылася на яго: „Гуза яму, а не пяцьдзесят злоты!“. А цяпер гаворыць во як: „А што за тыя пяцьдзесят купіш?“...

— Ваня вярнуцца думаў ды позна ўжо: Міша на яго месца сеў. Ваня кажа, што яму лепей у лесе, але хто ж гэтаму паверыць, што лягчэй цягнуць сосны, чым конавачкі. ...Гэта ён сябе так пацяшае, вядома. У лесе тым хто ж яму дадатковую залатоўку дадасць, заплацяць, колькі ў цэнніку напісана, і бывай здароў, не кашляй.

> **ПРАДАМ**
>
> Прадам парсюка, 150 кілаграмаў вагою, па 300 зл. за кілаграм + 50 цэнтаў цвёрдай валюты.
>
> Прашу зразумець, што без цвёрдай валюты не магу сабе купіць бараны, а вясна ж ужо не за гарамі.
>
> **М. Лук'янюк**
>
> **Ад рэдакцыі.** А мы ўжо пачалі напытваць, дзе б тут тых цэнтаў дастаць, каб і мы Лук'янюковай свежанінкі пад святы скаштаваць маглі...

— Калі і лістаношы на лішнюю сотню ўсё пазіраюць, людзі і даюць ім „чырвонца“, як толькі рэнту якую або плату за малако прынясе дахаты пад канец месяца. А ёсць і такія з іх, што ўтолас вымагаюць: а сотня мне дзе, бабку?!

— А мая адна сваячка не дае, і ўсё. Кажа свайму лістаношу: ласкі ты, хлопча, не робіш тут мне, што прыносіш грошы дахаты! Не падабаецца табе насіць іх, то не насі, шукай лягчэйшага хлеба. І што ты думаеш: маўчыць той лістаноша, толькі сапе пад носам ад злосці, але грошы прыносіць акуратна, нават акуратней, чым да іншых!

Паслухала я гэту размову на прыпынку, і мне раптам здалося, што наўкола ў свеце нашым чуваць толькі шолах грошай і грошай, а іх шапатанне як бы галаснейшае ўжо ад шопату-шолаху лісця асенняга каля хат... Кінуліся людкове міліянерамі быць. А як ім быць, не будучы свіннёю? — вось пытанне нашага часу. Дзяры-бяры з кожнага, аблупі нават бедака, як бярозку якую на венік! Хай голым гойдаецца, чорт з ім, з чалавекам!!! Бо ў нас цяпер так ёсць, што той толькі чалавек, у каго поўныя кішэні грошай, а ў каго — пустыя, дык добра яшчэ, калі такога толькі дурнем абзавуць.

А гэта ж усё нелегальшчына, бо за такое дзяры-бяры і ў суд можна падаць. Але ўсе мы як бы прызвычаіліся ўжо да нелегальшчыны, да здабычы гвалтам; так фармуецца гаспадарчае падполле; хто самагонную фабрыку патайную будуе, бы тыя, якіх накрылі на багнах каля Валілаў, а хто і прасцей у падпольнікі пайшоў, сотні збіраючы або хабары. Нярaз палохаюся: падполле гэтае ўсё большае і большае, і ніякая міліцыя не зваюе яго, бо хабарнікі і „сотнікі“ тыя накшталт партызанаў: народ падтрымлівае іх, грашмі абкладаючы ды ўсякімі добрасцямі. У гэтакім падполлі жыць і не паміраць, і Ваня плюецца ў бараду сваю, што так дурна з падполля выйшаў у легальныя заробкі, а Мішы з таго падполля ўжо і кіем ты не выштурхнеш! І гэтыя падпольнікі ствараюць „левы капітал“, я б сказала: канкурэнцыйны. А яшчэ гаворым, што беларусы баяцца нелегальшчыны...

**Аўрора**

# НАЙВАЖНЕЙШАЕ — ЯКАСЦЬ ВЫРАБАЎ

Баваўнянае прадпрыемства „Фасты“ з'яўляецца адным з найбольшых у Беластоцкім ваяводстве. Пабудавалі яго ў гадах 1950-1955 пры дапамозе савецкіх спецыялістаў. Наша дзяржава залечвала тады яшчэ раны вайны і не пад сілу было ёй займацца самастойна вялікімі інвестыцыямі. „Фасты“ будаваліся згодна з планам створанага ў 1949 годзе Савета эканамічнай узаемадапамогі (СЭУ) і таму хуткімі тэмпамі рэалізаваліся будаўнічыя планы.

Цікавы быў перыяд будовы прадпрыемства, а пасля мантажу ў ім савецкіх тэкстыльных машын і абсталяванняў, супольнае пераадольванне цяжкасцей, пасля якіх прыходзіла сапраўднае творчае задавальненне. Работа спорылася і ўрэшце наступілі хвіліны пуску ў рух тонкапрадзільнай фабрыкі. Да працы ў ёй сталі даязджаць рабочыя. Былі гэта пераважна маладыя людзі (у асноўным дзяўчаты), між іншым, і з беларускіх вёсак. „Фасты“ пачалі даваць прадукцыю, пачаткова ў кааперацыі з баваўняным прадпрыемствам у Замброве.

Гісторыя росту „Фастаў“ да вялікага баваўнянага камбіната значылася новымі пабудовамі. У 1960 годзе перададзена была ў карыстанне каляровая ткальня і фарбярня пражы. У 1965 годзе рушыла новапабудаваная вытканчальня матэрыялаў. У ёй ужо не толькі свае фастоўскія, але таксама выпрадукаваныя ў сырым стане замброўскія вырабы праходзілі фінальны працэс прадукцыі.

Важнай справай было таксама ўвядзенне прадукцыі плашчавых тканін з эланы. У сувязі з гэтым неабходна было пабудаваць фарбярню і падрыхтаваць спецыяльнае абсталяванне. Усё гэта было зроблена заходнегерманскай і італьянскай фірмамі на высокім тэхнічным узроўні.

Павышэнню якасці прадукцыі спрыяла мадэрнізацыя белай ткальні савецкімі прадзільнымі машынамі. Эмблема фастаўскага баваўнянага камбіната становіцца вядомай за межамі нашай краіны, а найбольш у СССР.

У цяжкі для Польшчы перыяд, у пачатку васьмідзесятых гадоў, калі заламалася эканоміка, СССР забяспечваў фабрыку сыравінай, без якой давялося б устрымаць прадукцыю.

Пачынаючы ад 1985 года, кантакты „Фастаў“ з прадпрыемствамі ў СССР увайшлі ў новы перыяд карыснага супрацоўніцтва. Вось, напрыклад, з Гродзенскім прадзільным камбінатам імя 25 З'езда КПСС „Фасты“ ў студзені 1985 года падпісалі ўмову аб супрацоўніцтве ў галіне тэхнікі і тэхналогіі, якая ўжо паспяхова ажыццяўляецца.

Вядома, што сучасная вытворчасць можа быць рэнтабельнай, калі яна абапіраецца на навейшых дасягненнях навукі і тэхнікі, калі выкарыстоўваецца высокапрадукцыйная тэхналогія. У „Фастах“ здолелі палепшыць, удасканаліць пражу, зрабіць яе танчэйшай. Гэта дазволіла прадпрыемству зберагчы 187 тон сыравіны ў мінулым годзе, з якой дадаткова было выпрадукавана 750 тыс. метраў тканін.

Таксама аднаўляецца машынны парк. У 1986 годзе прызначана было на гэта 706 млн. зл., у 1987 годзе — 949 млн. зл., а на бягучы год запланавана 1.205 млн. зл.

Варта падкрэсліць і той факт, што ў мінулым годзе фабрычны калектыў у „Фастах“ зменшыўся на 5 прац., але прадукцыя павялічылася на 28 прац. у пражы, на 10 прац. — у прадукцыі сырых тканін і на 20 прац. — у гатовых вырабах.

Галоўнай справай прадпрыемства з'яўляецца экспарт сваіх вырабаў на Усход, але асабліва на Захад, адкуль можна атрымоўваць цвёрдую валюту і машыны па апошняму слову тэхнікі. Але гэтыя і іншыя справы даволі складаныя, таму што ў другім этапе гаспадарчай рэформы патрэбны новы падыход да ўсіх праблем прадпрыемства, калі яно знаходзіцца на ўласным гаспадарчым разліку.

**Міхась Хмялеўскі**


Салістка Валянціна Мароз з бельскіх „Васілёчкаў".


На сцэне стала бела-бела: увайшлі „Бярозкі" з Кнарыд.

# БЕЛАСТОК РАССПЯВАНЫ

(Праціяг са стар. 1)

які распачаў ужо 35 год свайго існавання, а таксама мужчынскі хор з Рыбалаў, які захапіў слухачоў сучаснымі фальклорнымі творамі аднаго з членаў калектыву Мікалая Ігнацюка: „Жураўлі" і „Загінулі над Нарвай". У гэтай групе апынулася таксама салістка Марыя Міруць з Гарадка, якая звонкім чыстым голасам у тыпова беларускай народнай манеры заспявала песні „Там за гаем" і „А я замуж не пайду" і атрымала за іх выкананне ўзнагароду „Нівы".

Што датычыцца катэгорыі сучаснай песні (з акампанементам, вядома), дык на першым месцы апынулася аж пяць калектываў: жаночы і мяшаны калектывы, якія працуюць пры гарадскім аддзеле БГКТ у Беластоку, мужчынскі калектыў з Гайнаўкі, эстрадны калектыў „Дубіны-1" і васьміасабовая вакальная група душпастырства праваслаўнай моладзі ў Беластоку; сярод салістаў перамагла Аля Дубец; у дуэтах — яна ж са сваёй славутай мамай Любай Гаўрылюк.

Цяжка было злічыць выканаўцаў, якія апынуліся на другім месцы, калектываў там было найбольш, а ў суме выйшла 18 пазіцый. Спецыяльныя ўзнагароды атрымалі таксама музычныя інструктары Сцяпан Копа, Пётр Нявінскі, Сяргей Лукашук, Аля Дубец, Ірэнеуш Лаўрэшук з Гданьска і Міхась Артышэвіч (таксама і за спеў).

Былі б мы несправядлівыя, калі б не адзначылі яшчэ двух герояў гэтых конкурсных дзён. Маю тут на думцы нястомную Валянціну Ласкевіч і Мікалая Бушко (пры трэцім канцэрце ўжо крыху стаміўся). Без іх дасціпнага канферанса ўсё магло б выглядаць інакш. Думаю, што найсмачнейшы суп, пададзены ў абы-якой старой місцы, не быў бы такі смачны. Мікалай Бушко рабіў, што мог, каб яшчэ больш разагрэць, несумненна, і так гарачую публіку, сыпаў жартамі налева і направа (настаўнік пытаецца ў вучня: „Co jest kopa?", „Сцяпан", — адказвае вучань).

Рэжысёрам усёй праграмы фінальнага конкурсу быў Сяргей Лукашук, дырэктар Бельскага дома культуры, шматгадовы музычны інструктар, заслужаны дзеяч БГКТ. І калі я так глядзела на ўвесь гэты калейдаскоп мелодый і пачуццяў, ды відаць было, што не гінуць аўтэнтычныя народныя песні — некаторыя вельмі старыя, бо спявалі іх яшчэ прапрабабулі і прапрадзеды нашы (прыехалі з імі калектывы з Дабрывады, Меляшкоў, Арэшкава, Агароднікаў, дуэт з Чыжоў), калі слухала песні з сённяшнім рыбалаўскім фальклорам, калі сцвярджала факт, што пастаянна ўзнікаюць новыя калектывы (толькі што былі хрысціны „Чыжавян", узнікаюць калектывы на Сямяціччыне, спяваюць амаль прыгарадныя калектывы, як хаця б з Агароднічкаў каля Беластока), што аж у Гданьску не могуць абыйсціся без беларускай песні (спяваюць: „Я знаю, дзе мой дом, сапраўдны дом! Беларусь, Беларусь, спяваць я буду пра цябе!"), калі ўбачыла, што не старэе Ніна Мушынская і Люба Гаўрылюк са сваёй песняй усё выглядае як дзяўчына, хаця ўжо стала бабуляй, сэрца гатова было выскачыць з грудзей.

І тады я аглянулася на дзесятак гадоў назад і міжволі параўнала: якія цяпер сталі агляды беларускай песні! Які ў іх мастацкі ўзровень сёння, якія казачныя некаторыя касцюмы, якая вышыўка... Што за знаныя людзі прыехалі ацэньваць конкурс, а як лопаецца ў швах Беластоцкая філармонія...

**Ала Чачуга**
**Фота С. Грынявіцкага**

P.S. Высветлілася, што дыскатэка можа дасканала адбыцца без заходняй музыкі, а толькі пры беларускіх народных мелодыях, што і даказаў ансамбль „Крынічка" з Бельскага беларускага ліцэя, праспяваўшы ў суправаджэнні музычнага калектыву беларускую народную песню „Ехаў дзедка на кірмаш".


Лаўрэатка ўзнагароды „Нівы" — Марыя Міруць з Гарадка.


Шматгадовы музычны інструктар Пётр Нявінскі.


Вялі канцэрт Валянціна Ласкевіч і Мікалай Бушко.


Публіку можна было і не падагравань...

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р




### НАШТО ПОВІЕРЫЛА...

**(веснавая)**

Стоіт дівчо над быстрою водою,
стоіт дівчо і думку думае:
— Быстра вода, возьмі мэнэ з собою,
бо мне так тяжко на сём светі жыть*.
Ты прыходіў до мэнэ опувночы,
ты прыходіў, колі ешчэ спала
і цыловаў заплаканые очы, і говорыў:
— Нэ плач, будэш моя.
За што, за што я тэбэ полюбіла,
нашто, нашто повіерыла тобе,
бодай ніколі я тэбэ нэ знала,
то бы нэ міела ніякой журбы.
Стоіт дівчо над матэры могілой,
стоіт дівчо і горкі слёзы лье:
— Родная маті, возьмі мэнэ з собою —
быстра вода нэ хочэ мэнэ взять.

** Трэція і чацвертыя радкі паўтараюцца.*

*Ад Кацярыны (1912 года нараджэння) і Івана (1906 года нараджэння) Ільяшукоў з в. Курашава, гм. Чыжы, запісаў 27 лістапада 1987 г. М.Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.*




**Дарагон Сэрцайка! Бяда!!!**

Усё пачалося нявінна і субтэльна. Нашы вочы сустрэліся ў аўтобусе і тады, быццам маланка, мільганула ў мяне думка: „Ці такія вочы могуць маніць?“. Без лішніх слоў мы зразумелі, што між намі палае платанічнае каханне, што яно ўжо цягнецца ад вякоў, а мы толькі сёння спакусіліся надаць сэнс гарачым прагненням. Мой нарачоны — гэта выснены ў дзявочых снах ідэал. Для паяснення дадам, што вельмі змахвае на Роберта Рэдфорда. Але гэта не ўсё. Прыгажосць яго душы давяла мяне да адуру. Я ішла за ім пакорна, як цяля, і не ў сіле была прамовіць: „не“. Я верыла ў прызначэнне і аддавалася яму да канца. Прыемна (думаю, што яму таксама) было нам разбіць адвечныя правы існавання. Але жыццё мяне перахітрыла, а хлопец мой папаўся ў свае сеці. Калісьці, як напіўся амаль што да непрытомнасці (з нагоды здадзенага экзамена), зусім несвядома назваў мяне „Алькай“. Справа пачала мяне цікавіць і я пачала высвятляць „няясныя справы“. Як аказалася, Алька гэта другая яго дзяўчына. Але з адной то і не так канкурэнцыйна. Разведка выказала, што ў кожным акадэміку ёсць такая, як я, нарачоная, мала таго — у кожным рэгіёне краіны, а некаторыя гавораць, што ў кожнай краіне. Гэта давяло мяне да шалу. Я вельмі зайздросная. На адну думку аб іншых дзяўчатах сінею ад злосці. Сэрцайка, такога чагосьці я не перанясу. Мае чыстыя пачуцці змяшаліся з граззю. Я і эратаман — гэта ж прафанацыя! А цяпер дык ужо нават нічога не выракаецца і кажа, што „ад прыбытку галава не баліць“. Кажа нават, што любіць такія „наіўныя дупы“, а мае ідэалы — хворая выдумка. А я не хачу іх зракацца, без гэтага я — псіхічны калека. Гэта ўсё адбілася на маім нутры. Я ўжо два тыдні ўцякаю ад людзей і да нікога не адзываюся. Па галаве ходзяць нездаровыя думкі. А гэта ўсё з-за параненай годнасці.

Сэрцайка, дзе мне нарваць таго зелля, каб загаіліся раны?!

**Люська**

Дарагі Люсік! Ну як мне цябе пацешыць?! Стыль у цябе добры, вучоны (толькі Рэдфорд у цябе праз „т“). Ды і тэма не благая, надзённая. Але зразумей жа ты толькі, што ніякая ў свеце дзяўчына не напіша сама пра сябе нешта такое, як: „дастаю белай гарачкі“, „жаночая слабасць“, „ёсць думка нават, каб яго зарэзаць ці атруць“, „мае сарамлівыя пачуцці“, „па прасторах мазгоў бушуюць нездаровыя думкі“, „маральнае пахмелле“ (што, зрэшты, удалося нам без затрат для газеты падчысціць). Дзяўчына, калі піша, дык яна ў роспачы, ёй здаецца, што ўсё рабіла добра, пытае, чаму так выйшла. Ну, не ўмее яна на сябе глядзець збоку. Ты — хутчэй за ўсё хлапец, да якога яна мае прэтэнзіі. Адгукніся, і, калі так, то не застаецца табе нічога, як змяніцца. Бо... ад сваёй жа зброі і загінуць калісь можаш.

**Сэрцайка**

P.S. Зелля больш не варта есці, бо і так выглядае, што ўжо наш Люсік блёкату наеўся.




### ЦЭПЭЛІНЫ

Цэпэлінамі заўсёды частуюць у Літве. Пераканаліся мы ў гэтым нават у мінулым годзе ў час прыгранічнай сустрэчы на літоўскай зямлі, у Вейсеяй.

На цеста бяруць 20 вялікіх бульбін, 1 яйка і соль.

15 бульбін абабраць, памыць, сцерці на тарцы і выціснуць праз марлю. 5 бульбін зварыць у мундзірах, абабраць і прапусціць праз мясарубку. Масу з сырой і варанай бульбы змяшаць разам, дадаючы яйка і соль.

З масы рабіць нятоўстыя аладкі, больш-менш вагою 80 г. На іх класці фарш, рабіць прадаўгаватыя клёцкі. Цэпэліны класці асцярожна ў пасолены кіпецень і варыць мінут 25-30. Вымаць друшляковай лыжкай і складаць іх на падагрэтай талерцы, паліваючы соусам, зробленым са смажанай саланіны і цыбулі са смятанай.

Падаем некалькі прыкладаў фаршу для цэпэлінаў.

1. На **мясны фарш** бярэм 30 дэкаў ялавічыны, 10-20 дэкаў свініны. Мяса трэба змалоць, дадаць цыбулю, падсмажаную на тлушчы, перац і соль (можна яшчэ дадаць крыху булёну) і ўсё перамяшаць.

2. **Фарш з капчонай шынкі ці бекону.** На паўкілаграма шынкі трэба ўзяць 1 цыбулю, 1 яйка, перац. Шынку ці бекон зварыць (класці ў кіпецень), пасля чаго дробна парэзаць. Дадаць пасечаную цыбулю, яйка, перац і перамяшаць.

3. **Фарш з тварагу ці белага сыру.** На 20 дэкаў тварагу ці белага сыру трэба ўзяць адно яйка, лыжачку масла, соль (у Літве дадаюць яшчэ мяту). Усё добра перамяшаць. Гэтыя цэпэліны падаюць з „кастыныс“, што абазначае растопленае масла са смятанай.

4. **Грыбны фарш.** На 1 літр салоных ці сушаных грыбоў трэба ўзяць 15 дэкаў капчонай саланіны ці бачку, 1 цыбулю, крыху перцу, 1 яйка, 10 дэкаў намочанай у малацэ булкі. Памытыя грыбы абварыць у малацэ, абсушыць і змалоць разам з саланінай. Да масы дадаць яйка, вымачаную і выціснутую булку, перац і соль. Усё перамяшаць. Падаваць са смятанай, растопленым маслам, ці соусам са смажанай саланіны, цыбулі і грыбоў.

5. **Фарш з кіслай капусты.** На літр кіслай капусты бярэм 10 дэкаў саланіны, 1 цыбуліну. Капусту спаласнуць, цыбулю пасячы, падсмажыць на нарэзанай саланіне. Спалучыць усё з капустай і стушыць. Трымаць капусту адкрытай яшчэ нейкі час на агні, каб загусцела. Паліць цэпэліны скваркамі ці смятанай.

**Гаспадыня**

## СОННІК

**118**

**Фельчар** — збядненне, няўдачы ў жыцці.
**Фехтаванне** (шармерка) — спрэчкі з суседзямі.
**Фігі** (фрукты) — невялікае аслабленне здароўя; есці або атрымаць — шчасце ў каханні.
**Фіглі** — пакрыўдзяцца і раззлуюцца на цябе суседзі.
**Фіялка** — шчасце ў каханні; нюхаць — сціпласць прыхіляе табе сяброў.
**Фіранка** — таямніца.
**Фланель** — добрае здароўе.
**Флейта** — прайграная справа; іграць на ёй — клопаты, засмучанне.
**Флот** — вялікае багацце.
**Фокуснік** — цяжкі хлеб, няпэўнае жыццё.
**Фрак** — сямейная ўрачыстасць.
**Француз** — паклёпніцтва, беспадстаўнае асуджэнне.
**Фундамент** — чысты даход у інтарэсе.
**Фурман** — даходнае, карыснае мерапрыемства, інтарэс.
**Фурыя,** шаленства — нянавісць.
**Футарал** — прадажныя сябры.
**Футра** — удачы і пашана; купляць — хвароба.
**Фэстын** — вясёлае здарэнне.

**Х**

**Хаваць што-небудзь** — благія намеры; хавацца — складаныя справы.
**Хадулі** — небяспека.
**Халадзец** (квашаніна) — плач і роспач.
**Халадзільнік** (лядоўка) — неспадзяваныя выдаткі.
**Халасцяк,** стары кавалер — сцеражы свой гонар, нездавальненне.
**Халява** — нязгода ў сям'і.
**Хамяк** (хомік) — дачакаешся дабрабыту.

# ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Хведар Чэрня

### АЛЕШКАВЫ СЯБРЫ

У ката замерзлі ножкі
На марозе у двары.
І да нашага Алёшкі
Папрыходзілі сябры.
Раду радзяць цэлым домам,
Як сапраўдныя ўрачы:
Як быць коціку малому,
Чым яму дапамагчы?
Доўга справу вырашалі,
Паспрачаліся чуць-чуць.
І нарэшце так сказалі:
— Трэба коціка абуць!
Прымяралі, шылі разам,
Выдумлялі штось яны.
А каток малы тым часам
Ціха грэўся ля сцяны.
Вось закончана работа.
І на двор усе бягом.
Шумна, весела, з ахвотай
Забаўляюцца з катом.
Пара лапак невялічкіх —
У пуховых рукавічках,
А другая пара, гляньце, —
У валёначках на ваце.
І цяпер ні так, ні гэтак
Не падступіцца мароз.
Толькі дзіўна:
як і ў дзетак
У ката чырвоны нос.

*А цяпер усім дзецям заданне: намалюйце ілюстрацыю да гэтага вершыка і прышліце ў рэдакцыю. За найпрыгажэйшыя малюнкі „Зорка" прышле кніжкі.*

---

Тамара Пятрушына

### ПРА ТАНЮ

Мама і бабуля ў Тані — настаўніцы. Таня пытаецца:

— Мам? А бабуля таксама ў тваёй школе працавала, калі была маладая?

— Не, Танечка. Бабуля раней жыла ў вялікім горадзе далёка адсюль. Гэта ў час вайны яна сюды пераехала. Так і засталася тут.

— Мама? А ты ў горад не хочаш паехаць?

— Прызвычаілася я тут жыць, Танечка, — адказала мама. — Ды і ў бабулі здароўе слабенькае ўжо. Ёй на вёсцы спакайней.

Пайшла Таня да бабулі.

— Бабулька? А бабулька?

— Што, Танюшка?

— Хочаш, я за цябе ўсю работу параблю? Пасуду памыю, у хаце прыбяру? Хочаш, пайду па малако да цёткі Нюры?

— Навошта, Танюша?

— Каб у цябе здароўе было мацнейшае.

(Працяг на стар. 10)



*Удзельнікі раённага дэкламатарскага конкурсу для школьнікаў са школы № Гародчыне — вучаніца пятага класа Аня Саковіч і вучань шостага класа Міраслаў Паўлючук (першае месца).*
*Фота Я. Чэрнякевіч*

Алесь Пальчэўскі




Усё здарылася раптоўна. Дзынкнула шыба, і мяч уляцеў у хату.

Ціма і Вася кінуліся наўцёкі. Але куды схаваешся? Усе ж бачылі, як яны гулялі на двары. Ды і не толькі бачылі. Суседка Алена нават раіла адысціся далей ад акон.

Хлапчукі адбеглі на суседні двор, прытаіліся між кустоў агрэсту і, напалоханыя, пазіралі, што тварылася каля іх дома.

Цётка Клава стаяла пасярод двара з мячом і распытвала ў суседзяў, куды маглі падзецца свавольнікі. Хутка Ціма і Вася ўбачылі, як з хаты выйшла маці, чулі, як суседка казала:

— Вазьміце, Настачка, мяч і паглядзіце, што натварылі вашы футбалісты, — паказала яна на выбітую шыбу.

Маці ўзяла мяч, пакруціла ў руках і адказала:

— Прыйдзе з работы бацька, няхай сам разбярэцца з імі.

Вася глянуў Ціму ў твар і шапнуў:

— А што ты скажаш тату?

— Тое, што і ты. Разам гулялі, разам будзем і адказваць.

— Але па мячу біў ты. Я так і скажу тату.

Цяпер, калі здарылася няшчасце, Ціма каяўся, што не паслухаў суседчынай парады. Ён ведаў, бацька не даруе такую правінку. Напэўна, не возьме сёння ў кіно.

Хутка жанчыны разышліся з двара, і Ціма з Васем ціхенька вярнуліся дахаты. Маці накры-

(Працяг на стар. 10)

---

Бяжыць Іванка з вуліцы і махае рукамі. Твар мурзаты, валасы ва ўсе бакі тырчаць. Ды што паробіш: галоўка ў Іванкі віхрастая, ніяк не прычасаць. Не слухаюцца валасы. Дык ён іх мокрай далонню прыплешча, — што кароўка языком залізала. Але потым валасы зноў тырчком.

Бяжыць Іванка, спяшаецца, крычыць:

— А ў мяне нештачка! А ў мяне нештачка! Цётка Валя дала!

Паштальёнку цётку Валю ведаюць усе: і дарослыя, і малыя. І яна таксама ўсіх знае. Таму, калі здараецца пад рукою хтонебудзь з малых, дык яна аддае яму ліст ці газету і наказвае:

— Бяжы, перадай татку ці мамцы, а я тут пачакаю...

Вось і Іванка такім чынам прынёс ліст ад бабулі. Перадаў маме і сочыць, як бегаюць маміны вочы па паперы. Мама хмурыцца, і Іванка хмурыцца, мама ўсміхаецца, і Іванка ўсміхаецца.

Дачытала мама пісьмо, пацалавала сына ў кірпаты носік ды кажа:

— Паклон табе, Іванка, бабуля перадае.

Узрадаваўся Іванка, пакруціўся на адной назе, скінуў палітончык свой: будзе, кажа, дома. Мама схавала лісток у канверт, паклала на столік пад кнігу, — тату не забыцца даць пачытаць, як дадому прыйдзе. А сама занялася хатнімі справамі.

Але дзе тут чым пазаймаешся, калі Іванка дома? Ходзіць ён услед: куды мама крок, туды і ён два. Быццам дапамагаць ма-

Кастусь Кірэенка




ме хоча, а на самай справе — замінае.

— Іванка, сынок, ішоў бы ты на вуліцу. Глянь, як сонейка свеціць...

— Не, я тут буду... — адказвае Іванка.

Занепакоілася мама. Ну, што з хлопчыкам здарылася? То і хвілінку дома не затрымаць, а тут — бач ты, вачэй з яе не спускае.

— Іванка, ці ты часам з Андрэйкам не пабіўся? — пытае мама.

— Не, мамачка. Мы гулялі ў квача.

— Тады чаго ж ты сядзіш дома?

— Так сабе... — адказвае Іванка.

Сталі сабірацца дамоў старэйшыя. Сястрычка з брацікам са школы прыйшлі. Тата са службы вярнуўся. Селі абедаць. Глядзіць маці: Іванка есці не бярэ, на вачах слёзы.

— Сыночак, што з табою? Ці не захварэў ты? Такі вясёленькі быў, а тут вочкі плакаць хочуць...

Не стрымаўся Іванка. Заплакаў і кажа:

— Ты ўсё робіш і робіш... А паклон бабулін калі мне перадасі?

Дык вось якая турбота! Пачала мама расказваць пра пісьмо бабуліна і пра паклон Іванку.

— Я ж сынок, перадала табе паклон бабулін і ў носік пацалавала, як яна напісала.

Пасадзіў тата Іванку на калені і стаў яму тлумачыць, што такое бабулін паклон.

А з вамі, дзеці, не здаралася такой бяды?

(Працяг са стар. 9)




чала на іх і пыгразіла бацькам. Хлапчукі добра ведалі, калі вяртаецца з работы іх тата. І чым бліжэй надыходзіў гэты час, тым больш хмурнеў Ціма.

Вася першы ўбачыў бацьку на двары і пабег насустрач.

— А Ціма шыбу выбіў мячом у цёткі-Клавіным акне! — яшчэ здалёк тукнуў Вася. — Ён баіцца, што не пойдзе з намі ў кіно.

— З кім жа ён гуляў? — спынiўся бацька.

— Са мною.

— Значыць, і ты вінаваты?

— Не. Ад Цімавай нагі мяч паляцеў не ў мой бок, а ў шыбу.

Ціма моўчкі стаяў каля ганку з апушчанай галавой. Глянуў бацька на яго, убачыў засмучаны твар, і шкада стала сына.

— Ну што ж, Цімох Антонавіч, паробіш, бяда з кожным можа здарыцца. Ты ж не хацеў выбіць шыбы? — бацька паклаў руку сыну на плячо.

Ціма адчуў ласкавасць у голасе бацькі і пасмялеў.

— Не, тата, я асцерагаўся. Але мяч адскочыў ад нагі, а Вася не злавіў...

— Трэба было адысціся, сынок, далей ад дома. А цяпер прыйдзецца нам з табою ўстаўляць шыбу.

Вася стаяў збоку, паглядаў то на бацьку, то на брата і чакаў, што будзе далей.

А далей было вось што. Зусім нечакана для Васі бацька сказаў:

— У кіно не пойдзеш з намі ты, сынок.

— Чаму, тата?! — здзівіўся хлопчык.

— Каб не радаваўся з чужой бяды, — адказаў бацька.

(Працяг са стар. 9)

### НА АДНОЙ ЗЯМЛІ

Таня ведае, што ёй зімою чатыры гады споўнілася. Але ўсё пытаецца:

— Бабулька? А бабулька?

— Што, Танюшка?

— Колькі мне годзікаў?

— Чатыры.

— А хто з нас старэйшы? — зноў задае пытанне Таня.

— Я, вядома.

— А чаму мне мама заўсёды наказвае за табою даглядаць?

Усміхнулася бабуля.

— Яна і мне кажа за табою наглядваць.

— Дык як жа гэта? — не разумее Таня. — Мы абедзве павінны адна за другою наглядаць?

Тады бабуля высняе:

— Усе павінны адзін за другім наглядаць. На адной зямлі жывем.

Пайшла Таня на вуліцу. А там на дарозе трохгадовыя браты Карабкевічы ў пяску качаюцца. А побач, на ходніку, шасцігадовы Грышка Ягоркін стаіць.

— Ты чаго глядзіш? — раззлавалася Таня. — Яны ж сабе вочы пяском пазасыпаюць. Ды і машына можа над'ехаць.

— Во разумніца знайшлася! Ад зямлі тры вяршкі — а павучае!

— Ну што ты, Грыша, — сур'ёзна паківала галавою Таня. — Мы ж з табою на адной зямлі жывем!

### ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

СССР, 301782, Тульская обл., г. Донской, п. Шахтёрский, ул. Свердлова, 37. Брежневой Оле. 5 клас.

СССР, 163019, г. Архангельск, пос. Хабарка, ул. 8 Марта, 1, кв. 7. Мелкой Лене. 5 клас.

* * *

СССР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты, п. Майский, ул. Образцова, 2а, кв. 45. Третьяковой Наташе. 5 клас.

## малюнкі школьнікаў



„Прышэльцы з Космасу". Малюнак вучня першага класа школы № 3 у Бельску Марцінка Куптэля.

## КАРЭСПАНДЭНТЫ „ЗОРКІ"




*Карэспандэнты „Зоркі", вучні трэцяга класа з Барысаўкі Янка Андраюк, Эля Каролька, Ася Давідзюк, Анэта Буйноўская і Эва Юзвюк.* *Фота Я. Чэрнякевіч*

## Пішуць школьнікі

### ДАРАГАЯ „ЗОРАЧКА"!

Пішуць да Цябе вучні трэцяга класа Пачатковай школы ў Барысаўцы. Мы хочам Табе падзякаваць за кніжныя ўзнагароды, якія мы ўжо атрымалі за цікавыя малюнкі да беларускай казкі „Залатая яблынька". Нядаўна Дарота Попка і Ася Давідзюк атрымалі таксама кніжкі за малюнкі да апавядання „Хітры заяц" і „Жалуды".

Мы будзем часцей пісаць да дарагой „Зоркі".

**Трэці клас школы ў Барысаўцы**

### ПАВАЖАНАЯ „ЗОРКА"!

Піша да Цябе вучаніца пятага класа Ася Астапчук. Жыву я ў Каваляе, а вучуся ў Пачатковай школе ў Ласінцы.

Хачу Табе расказаць, як наша школа адзначала Свята жанчын.

Акадэмія з гэтай нагоды адбылася ў вясковым клубе. Мы запрасілі на яе не толькі нашых мам, але і жанчын з вёскі. Не забыліся мы і пра адзінокіх бабуль з навакольных вёсак. У самой Ласінцы жанчынам запрашэнні ўручылі працаўнікі бібліятэкі і клуба Ала Станько і Марыя Янюк. Мы ж, пад кіраўніцтвам настаўніцы Ніны Абрамюк, падрыхтавалі каляровыя запрашэнні і ўручылі іх жанчынам з суседніх вёсак.

Урачыстасць пачалася пасля заняткаў. Спачатку выступілі вучні малодшых класаў. Яны дэкламавалі вершы і спявалі песні, а сваё выступленні закончылі п'ескай „Партрэты славутых жанчын". Старэйшыя вучні выступілі з кароценькімі жартоўнымі сцэнкамі, а потым склалі пажаданні жанчынам, уручылі ім віншаванні і запрасілі на чай. Праграму мы рыхтавалі пад наглядам настаўніц Марыі Коўнер і Ніны Абрамюк. А настаўнік Яўген Кавальскі рабіў нам здымкі. Было вельмі весела.

Да пісьма свайго я далучаю верш, які я напісала пра наш гуртоκ мастацкага слова.

### НАШ ГУРТОК

Наш гурток —<br>
Радасць наша.<br>
Мы гуляем і спяваем

П'есы, вершы<br>
Вывучаем.<br>
На агляды выязджаем,<br>
Сцэнкі прадстаўляем,<br>
Месцы здабываем.

А калі не ўдасца,<br>
Дык не наракаем.

**Ася Астапчук, школа ў Ласінцы.**

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

У нашым класе 4 дзяўчынкі і 5 хлопцаў. Усе вучні вывучаюць беларускую мову. Вучымся мы па-рознаму. Лепшыя вучні ў класе — гэта Кася Дзмітрук і Еля Раманюк. Беларускую мову вядзе ў нас настаўніца Ніна Куптэль. Мы на ўроках чытаем „Ніву", „Зорку", „Вясёлку" і апавяданні з кніжак і іншых часопісаў. Мы не толькі чытаем, але пішам і малюем. Мой пяты клас вучыцца разам з шостым. Выхаваўца наш — дырэктар школы Кастусь Лапінскі. У нас будуецца новая школа, а пакуль што мы вучымся ў старой. Новая школа будзе гатова ў 1989 годзе.

У нас у школе ёсць гарцэрская дружына. Вядзе яе Галіна Лукашук. Ёсць і дружына зухаў. Вядзе яе маладая настаўніца, якая вучыць у нас першы год, Эля Баравая. Нядаўна мы святкавалі ў школе Дзень жанчын. Хлопцы падрыхтаваліся — дэкламавалі вершы і спявалі песні. Кожная жанчына атрымала ад нас кветку і паштоўку з пажаданнямі. Да гэтага яшчэ была далучана песня.

Вось так мы жывем і працуем у нашай школе і ў нашым класе.

**Вучаніца пятага класа са школы ў Навакорніне Тамара Андрэюк**

### А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



Маленькі чалавечак, які знаходзіцца ў верхнім левым вугле ў рамачцы, мае свайго адпаведніка на малюнку ў той самай позе. Знайдзі яго.


Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok ul. Wesołowskiego 1 „Зорка".

*Байка*

### БАЛЕРЫНА

Абрыдла за адрынай
Свінні ў гразі ляжаць,
І нейк балерынай
Свіння рашыла стаць.
Пачухалася бокам,
Прарохкала Казе:
— Змагу і я падскокваць
Так, на аднойназе.
Жыццё зменіць не позна,
Не бойзна ані.
Паглядзіш, будуць козы
Зайздросціць мне, Свінні... —
На лузе коз сабрала,
Сама ўспаўзла на мост,
І ўстаць паспрабавала
Свіння на поўны рост.
Ды надта многа здору —
Трасецца, як жывы,
Свіння не можа ўгору
Падняць і галавы.
Спацела, цяжка дыхаць,
Як бычцам спутаў страх,
І стала толькі дрыгаць
На чатырох нагах.
Каза сказала проста:
— Свіння, са сцэны злазь!.. —
І „балерыну" з моста
Сцягнулі зноў у гразь.

Да сённяшняга дня
Смяюцца ўсе адкрыта:
„Вось так!
Танцуй, свіння,
Каля свайго карыта!"

**Мікола Маляўка**

З суседскага агародчыка




# НІЎКА



### ПАРАДА

Пацыент звяртаецца да псіхіятра:

— Калі я гавару, пан доктар, дык не ведаю, што рабіць з рукамі, і гэта мяне вельмі нервуе...

— А вы паспрабуйце імі закрыць рот, — параіў псіхіятр.

### ДОБРАЯ ПАРАДА

— Даражэнькі сынок! Калі хочаш быць шчаслівым, дык сцеражыся карчмы, картаў і распусты.

— Так, татачка! Але ж мяне ў школе вучылі, што трэба заўсёды з бацькоў прыклад браць.

### ПЕРШАЯ ПРЫКМЕТА

— Кажуць, хутка ты будзеш мець мужа?

— Магчыма, бо ўжо дзіця маю.

### ВЫПЫТАЎ

Прыйшоў міліцыянер да задрыпанца гарэлку абшукваць. Агледзеў навокал, няма. Тады ён падыходзіць да малога Міколкі і пытае:

— Скажы, сынок, тата п'е гарэлку?

— Не.

— А дзед?

— Не.

— А што яны п'юць?

— Свянцоную вадзічку.

— Толькі ўдваіх яны п'юць, ці і бабуля з мамай?

— Не, толькі дзед з татам.

— А дзе ж яны яе баруць?

— А бабуля варыць ім у вялікай каструлі.

З „Весніка Задрыпоніі"

### ПАВЕДАМЛЕННЕ РЭДАКЦЫІ

Рэдакцыя даводзіць да ведама аўтарскага актыву, што пачынаючы з 1 красавіка г.г. ананімкі будуць разглядацца пры ўмове адзначэння ў ананімцы — прозвішча, імя і месца працы аўтара.

**Выбіўся ў людзі, і цяпер да яго не прабіцца.**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

**Пільнасць**

Ля брамы прадпрыемства машыну ставіць вартаўнік.

— Што ў цябе на заднім сядзенні?

— Трава.

— Многа?

— Так... Мяшок.

— Дрэнна. Адкуль трава?

— З пустэчы.

— Выгружай.

— Чаму?

— Таму, што пустэча на тэрыторыі завода.

— А паўмяшка можна?

— Нельга. Выгружай!

— Добра, выгружаю, — прабурчэў шафёр.

— Вось цяпер можаш ехаць, — падабрэў вартаўнік.

Машына выкацілася за браму. Шафёр сказаў спадарожніку:

— Бачыў, як я яго надуў?

— Каго?

— Ды гэтага дурня-вартаўніка.

— Дык ён жа прымусіў цябе выкінуць траву.

— Так. Але затое я ўкраў машыну.

*Пауль Негалеску*



### СТАРЫЯ ПРЫКАЗКІ НА НОВЫ ЛАД

„Нешта ў лесе здохла", — падумала жонка паляўнічага, убачыўшы яго са здабычаю.

„Ні рыба, ні мяса", — сказаў кліент, дажоўваючы мяса-рыбную катлету.

„Трэці — лішні", — сказаў студэнт, якога выключылі пасля другога курса.

*Рыгор Элішэвіч*

### ВОСЬ ДЫК ДАЎ!

— Надоечы на мяне напаў Лявон, дык я яму даў... Вось дык даў!

— А чаму ў цябе валасы павырываныя?

— А, браточка, ледзь уцёк...



На малюнку ёсць рэчы (і не толькі рэчы) у двух ідэнтычных экземплярах. Ці патрапіце іх знайсці?

Адказ: 2 хмаркі, 2 вежы, 2 драбіны, 2 кашы, 2 яйкі і 2 пеўні.

# КУРЁЗЫ

### РОБАТЫ І ТЭРАРЫСТЫ

Робататэхніка адкрывае перад чалавецтвам усё новыя і новыя магчымасці. Робаты не толькі выконваюць самыя складаныя тэхнічныя аперацыі, але даглядаюць хворых і нават няньчаць дзяцей. А хутка, як паведамляе італьянская газета „Стампа", з'явіцца першыя робаты-антытэрарысты. Супольнымі намаганнямі шэрагу спецыялізаваных фірм Італіі, Швейцарыі і Францыі ўжо ствараецца робат, які з выгляду нічым не адрозніваецца ад звычайнай машыны для ўборкі падлог у аэрапартах і на вакзалах, але дзякуючы сваёй электроннай начынцы здольны выяўляць і абясшкоджваць тэрарыстаў. Арыентуючыся на пах узрыўчаткі, ён будзе ісці за злачынцамі і паведамляць аб іх перамяшчэнні на пункты аховы. Калі паліцэйскія замарудзяць і не змогуць у час прадухіліць тэрарыстычную акцыю, машына сама ўступіць у барацьбу з імі: адкрые прыцэльны агонь па бандытах, ахутае іх воблакам слёзатачывага газу, асленіць яркім святлом.




**Калі ў чалавека няма ніводнага недахопу, гэта і ёсць яго галоўны недахоп.**